# ТОДАР ЛЕБЯДА

*Успомніш Беларусь,*
*І кроў у жылах стыне…*

У гэтым годзе спаўняецца 85 гадоў[*] Тодару Лебядзе, паэту, драматургу, празаіку, аўтару першай, напісанай на Бацькаўшчыне, антыбальшавіцкай п’есы «Загубленае жыццё»[†], вязню чалавеканенавісніцкай палітычнай сістэмы, які больш за 15 гадоў правёў у савецкіх канцлагерах і высылцы, аднаму з «распісчыкаў» сцен злавеснай «амерыканкі» (у 1937 г., перад расстрэлам, свае «аўтографы» на іх таксама пакінулі П.Галавач, Т.Кляшторны і В.Маракоў). Як сведчыў ягоны сябра Аўген Калубовіч у кнізе «На крыжовай дарозе»[‡], Тодар Лебяда на сцяне 95-й камеры турмы НКВД выдрапаў наступныя радкі[§]:

*Мне лёсам вызначаны*
*Гэтакі прымус.*
*Аб шчасці сёння*
*Можна сніць і марыць.*
*За тое,*
*Што я толькі — Беларус —*
*Мне гэтакая кара!*
*Я кару іхную*
*З пагардаю прыняў,*
*Бо я — сын верны*
*Маці — Беларусі.*
*І я святога*
*Гордага імя*
*Не адра-ку-ся!!!*

У апошнія гады, пасля таго як часопіс “Маладосць”[**] надрукаваў інтэрв’ю Барыса Сачанкі[1] з Масеем Сяднёвым[††], у якім упершыню праз многія гады забыцця, было згадана імя аднакурсніка Масея Сяднёва — Пятра Шыракова (як сведчыць М.Сяднёў, гэта і ёсць сапраўднае прозвішча Тодара Лебяды; таксама адзначым, што і нарысы, якія з’явіліся ў друку ў 1933 г., былі падпісаны гэтым жа прозвішчам, але заўважым, што свае першыя вершы 1931—1932 гг. і

[*] Артыкул напісаны ў пачатку 1999 г.
[†] Лебяда Т. Загубленае жыццё. Мн., 1943.
[‡] Калубовіч А. На крыжовай дарозе. Кліўленд, 1986. С. 19.
[§] Лебяда Т. Загубленае жыццё. Мн., 1943.
[**] Маладосць. 1990. № 9. С. 151—168.
[††] Інтэрв’ю таксама змешчана ў кнізе Б.Сачанкі “Трэцяе вока”. Мн., 1992.

творы, надрукаваныя ў слонімскай “Вольнай працы” ў 1960—1961 г., Т.Лебяда падпісваў “Шырокаў П.”), у прэсе з’явіўся шэраг публікацый пра пісьменніка. Сяргей Чыгрын[2] (“ЛіМ”[‡‡]; “Тэатральная Беларусь”[§§]), Ігар Адамовіч (“Голас Радзімы”[***]), Аляксей Анішчык[3] (“Голас Радзімы”[†††]), Алесь Марціновіч[4] (“Круг”[‡‡‡]), Ала Петрушкевіч[5] (“Маладосць”[§§§]) даволі падрабязна расказалі пра трагічны і незвычайны лёс Тодара Лебяды. Але хацелася б удакладніць некаторыя моманты біяграфіі пісьменніка.

Адным з першых надрукаваных вершаў Тодара Лебяды была антыалкагольная «Чорная каса»[****] з аб'яднаннем у адным радзе старога качагара, прагульшчыка і ворага завода (чытай — народа). Пасля былі актуальныя ў той час «Вынаходца» і «Чырвоныя абозы». Т.Лебяду заўважылі. Выходзіць артыкул заводскога паэта-ўдарніка Андрэя Ушакова «За вучобу, за штодзённую творчую працу: Пра творчасць Шыракова»[††††][6], але пасля піянерскага «За вамі геройства і слава»[‡‡‡‡] Т.Лебяда на доўгі час перастаў друкаваць свае вершы.



Злева направа: С. Хмара, М. Сяднёў. За імі — В. Таўлай, Т. Лебяда, А. Салавей, У. Сядура, Х. Ільяшэвіч, А. Чэмер. Мінск. 1944 г.

[‡‡] ЛіМ. 1993. 1 кастр.
[§§] Тэатральная Беларусь. 1995. № 2.
[***] Голас Радзімы. 1994. № 8.
[†††] Голас Радзімы. 1995. № 4.
[‡‡‡] Круг. 1996. № 8.
[§§§] Маладосць. 1997. № 7.
[****] Віцебскі пралетарый. 1931. 12 снеж.
[††††] Віцебскі пралетарый. 1932. 21 ліп.
[‡‡‡‡] Піянер Беларусі. 1934. 14 лют.

У 1933 г. у «Віцебскім пралетарыі» пачынаюць з'яўляцца і нарысы Т.Лебяды пра добра вядомае аўтару жыццё на вёсцы. Ніжэй паспрабуем разгледзець, як пісьменнік бярэ адну і тую ж тэму, але ў адным выпадку выконвае «социальный заказ партии», у другім — слухае сваю душу. Прыкладам могуць служыць нарыс Т.Лебяды «Другое жыццё»[§§§§] (1933 г.; у другім нарысе ў тым жа «Віцебскім пралетарыі» — «Першае ворыва»[*****] — тэма хоць і таксама калгасная, але мае іншы сацыялістычна-спаборніцкі кірунак) і яго п'еса «Загубленае жыццё»[†††††] (1943). У абодвух творах апісваюцца звычайныя для Беларусі пачатку 1930-х г. падзеі: раскулачванне, рабаванне нават тых, у каго і ўзяць толькі «казу ды карову». Тэма, якую ўжо закраналі С.Баранавых у «Межах»[‡‡‡‡‡] (1929—1930) і «Новай дарозе»[§§§§§] (1936), П.Галавач у «Спалоху на загонах»[******] (1930), М.Зарэцкі ў рамане «Вязьмо»[††††††] (1932), С.Знаёмы ў «Відагоршчах»[‡‡‡‡‡‡] (1930) і іншыя. Тэма — адна, акцэнты — супрацьлеглыя. Калі ў «Другім жыцці» бядняк — гэта пакрыўджаны лёсам селянін, араты, працаўнік, які не атрымлівае за сваю працу па заслугах, вечна абрабаваны сваім суседам, такім жа селянінам, але «чамусьці» багатым, і таму як божае благаслаўленне атрымліваецца тое, што нехта вельмі справядлівы адымае ўсё ў «багатага» і аддае беднаму — «абрабаванаму» (ці ўжо, як цяпер выходзіць, рабаўніку; пры гэтым, безумоўна, замоўчваецца далейшы «канцлагерны» або «расстрэльны» лёс гэтага «багатага»; замоўчваецца і тое, што беднаму дастаецца не ўся гаспадарка «багатага», а толькі яе частка), то ў «Загубленым жыцці» — як у сапраўдным: бядняк — гэта найчасцей абібок, п'яніца. А вось «багаты» якраз і ёсць той араты, якога п'яніца з дапамогай «правадыра народаў» і абярэ. І атрымліваецца ўсё гэта ў «самай справядлівай» дзяржаве, дзе так “вольно дышит человек”. Сапраўды, якая ж павінна была быць дыктатура пры Савецкай уладзе, калі нават знаходзячыся ў акупацыі пры фашысцкім рэжыме, пры якім маглі павесіць проста на вуліцы, Т.Лебяда гаварыў А.Анішчыку:

*“Мы з жонкай і дзіцём жывём надгаладзь. Дапамогі шукаць няма дзе і няма ад каго. Бо ідзе вайна і цяпер усім цяжка… Адначасова (парадокс!) я чуюся лёгкім, свабодным, незапалоханым чалавекам. Магу гаварыць і пісаць тое, што думаю, чаго спадзяюся. І*

---

[§§§§] Віцебскі пралетарый. 1933. 11 сак.
[*****] Віцебскі пралетарый. 1933. 9 мая.
[†††††] Лебяда Т. Загубленае жыццё. Монрэаль, 1952.
[‡‡‡‡‡] Баранавых С. Межы. Мн., 1930.
[§§§§§] Баранавых С. Новая дарога. Мн., 1936.
[******] Галавач П. Спалох на загонах. Мн., 1930.
[††††††] Зарэцкі М. Вязьмо. Мн., 1932.
[‡‡‡‡‡‡] Знаёмы С. Відагоршчы: Падарожныя нататкі ўдзельніка Чырвонаармейскага аграпаходу. Мн., 1930.

*пішацца мне лёгка, свабодна. Бо за мной не сноўдаецца стукач* (стукач, магчыма, за Т.Лебядой не сноўдаўся, а вось засланы забойца мог, бо, як сведчаць знойдзеныя нядаўна дакументы, на вядучых літаратараў, якія працавалі па другі бок барыкад, адразу некалькімі зацікаўленымі бакамі негалосна было аб'яўлена асабістае паляванне. — ***Л. М.***), *няма вечнага страху, што нехта штосьці набрэша ў эн-ка-вэ-дэ, і памінай як звалі...”*

Упершыню Тодар Лебяда быў арыштаваны 31 кастрычніка 1936 г., будучы студэнтам трэцяга курса Мінскага Вышэйшага Белпедінстытута (праз 3 тыдні пасля нараджэння дачкі):

*Алеся любая,*
*Дачушка дарагая,*
*Што так боязна*
*Глядзіш ты на мяне?*
*Сягоння я*
*Надоўга ад'яжджаю,*
*А там, — магчыма, стрэнемся...*
*Мо не...*

*Я ручкі кволыя*
*Бяру сваёй рукою...*
*Сягоння я... Ты плачаш?*
*Перастань!..*
*Пайду па вуліцы*
*Пад моцным пад канвоем,*
*Твой бацька,*
*Любы твой,*
*А сёння — арыштант...*

“Развітанне з маленькай дачкою”[§§§§§§]

У гэтую ж ноч энкавэдысты схапілі і паэта Алеся Дудара. Крыху раней або пазней (на працягу некалькіх тыдняў) арыштавалі і ягоных былых аднакурснікаў, сяброў і калег-літаратараў: Міколу Аляхновіча, Міхася Багуна, Сымона Баранавых, Сцяпана Баркоўскага, Захара Біралу[7], Анатоля Вольнага, Цішку Гартнага, Сяргея Грахоўскага, Анатоля Дзеркача[8], Іларыёна Дуброўскага[9], Якуба Ермаловіча[10], Міхася Зарэцкага, Алеся Звонака, Сяргея Знаёмага,

[§§§§§§] Лебяда Т. Загубленая жыццё. Мн., 1943.

Васіля Каваля, Уладзіміра Клішэвіча, Тодара Кляшторнага, Сымона Куніцкага, Саламона Левіна, Юрку Лявоннага, Валерыя Маракова, Барыса Мікуліча, Сяргея Мурзо, Алеся Пальчэўскага[11], Зяму Піваварава[12], Сяргея Ракіту, Абрама Розну[13], Яна Скрыгана, Васіля Сташэўскага, Масея Сяднёва, Юрыя Такарчука[14], Янку Туміловіча[15], Васіля Шашалевіча, Станіслава Шушкевіча, Пятра Хатулёва (зямляк Т.Лебяды), Уладзіміра Хадыку, Аляксандра Якшэвіча[16].

Варта таксама ўдакладніць, што некаторыя са «злачынцаў» былі «абясшкоджаны» на кватэры П.Хатулёва (вул. Р.Люксембург, 44/2, кв. 10). Потым высветлілася, што П.Хатулёў адначасова ўваходзіў і ў другую, «больш вышэйшую», «к-р нацдемовскую группировку» з 13 чалавек (арыштаваны ў лістападзе 1936 г.), якую «ўзначальвалі» М.Чарот і В.Маракоў. Магчыма, за гэтую «шматпартыйнасць» П.Хатулёва і прыгаварылі да вышэйшай меры пакарання. Цяпер мы можам сцвярджаць, што расправа над маладымі беларускімі пісьменнікамі ёсць яшчэ адно сведчанне спробы знішчыць лепшых прадстаўнікоў беларускага народа, яго духоўнай эліты тымі сіламі, якія, “як толькі даходзіла справа да дзяржаўнасці (Беларусі. — ***Л. М***.), душылі яе ў самым зародку агнём і мячом”*******.

Пасля многіх дзён катаванняў Пятро Шыракоў пачаў успамінаць:

*“В 1933—1935 гг. я учился с Гваздовым в одной группе... Недисциплинированный студент* (таксама пра Гваздова-студэнта паказаў і С.Левін. — ***Л. М***.), *пессимист, подвержен упадническим настроениям* (гэта, яшчэ будучы на свабодзе, неаднаразова прызнаваў і сам Гваздоў і яго сябар П.Хатулёў. — ***Л. М***.). *Недоволен окружающей жизнью... В 1935 г. я жил на квартире П.Хатулёва, где раньше бывал и М.Гваздов* (і некаторы час таксама жыў. — ***Л. М***.). *В его книгах я с Басей Цыпиной* (аднакурсніца і жонка††††††† Т.Лебяды. — ***Л. М***.) *обнаружили письма одного товарища из Орши, — где высказывались враждебные взгляды... [там же] были стихи пессимистическо-упаднического характера* (любімым паэтам М.Гваздова быў С.Ясенін. — ***Л. М***.). *Эти письма я собрал и передал парторгу литературного факультета — Мележко[17] Ст.»*‡‡‡‡‡‡‡

Нагадаем, што Сцяпан Мялешка быў не парторгам, а камсоргам факультэта, а таксама тое, што тут Т.Лебяда нагаворвае на сябе, бо пісьмаў М.Гваздова ён перадаць не мог — у момант арышту

---

******* Сачанка Б. Наша, беларускае... // Крыніца. 1998. № 11(47). С. 4.
††††††† Даволі падрабязна апісана ў рамане М.Сяднёва «Раман Корзюк».
‡‡‡‡‡‡‡ З асабістага архіва Л.Маракова.

П.Хатулёва яны былі канфіскаваны, аб чым пры вобыску кватэры і быў складзены адпаведны вопіс.

4 жніўня 1937 г. “тройка” прысудзіла Тодара Лебяду да пяці гадоў пазбаўлення волі, і ён быў накіраваны, як раней і Мікола Гваздоў, ва Ухтпечлаг НКВД:

*Я ўсёй душой*
*Любіў загонаў мову.*
*Я ўсёй душой*
*Любіў мой родны край…*
*І вось мяне,*
*Як злодзея, сурова*
*Зладзейскі суд*
*Без жалю пакараў…*
…………………………………………
*Бывайце, любыя*
*Загоны Беларусі!*
*Ў выгнанне еду я,*
*Мой любы родны край…*
*Апошні раз*
*На нівы падзіўлюся,*
*Скажу апошняе –*
*“Радзімыя, бывай!..”*

“Лісты да сябра”, “У выгнанне”§§§§§§§

Па-рознаму вядуць сябе вязні ў канцлагерах. Адны, як Т.Лебяда і Ул.Хадыка, у нядоўгі час адпачынку пісалі вершы. І калі ў канцлагеры ў каменяломнях Ул.Хадыка загінуў, першым, здаецца, на гэта адгукнуўся Т.Лебяда:

*Гусляра з душою набалелай*
*Не пачуем дзіўнае струны!..*
*Пахавалі зморанае цела,*
*Пахавалі, нават без труны.*

“Уладзіміру Хадыку”********

§§§§§§§ Лебяда Т. Загубленае жыццё. Мн., 1943.
******** Тамсама.

Другія, як А.Александровіч (якому, як сведчыў Т.Лебяда, у часе допытаў энкавэдысты зламалі два рабры), «працягваюць да нябёс усхваляць ВКП(б), апраўдваць НКВД і ўсім гэтым нажываюць сабе ворагаў не толькі паміж паліткатаржанаў, але нават і «уркаў»[††††††††].

На фотаздымку (датаваны: “1944 г. Менск”), які быў змешчаны ў 1954 г. у “Баявой ускалосі”[‡‡‡‡‡‡‡‡] (Канада), да артыкула “Памяці сябра Паўлюка Сіраты”[18] мы бачым разам “Беларускі Парнас” (так падпісаны фотаздымак): Паўлюк Сірата (Валянцін Таўлай), Тодар Лебяда, Хведар Ільляшэвіч, Андрэй Чэмер, Сяргей Хмара, Алесь Салавей, Уладзімір Сядура і Масей Сяднёў.

Той час, як бы гэта ні гучала парадаксальна, стаўся найбольш плённым у лёсе пісьменніка: “Лебяда пазнаёміў мяне са сваёй паэтычнай творчасцю, нарысамі ў прозе…”, — успамінаў А.Анішчык. Выйшаў першы зборнік вершаў Т.Лебяды — “Песні выгнання”, напісана п’еса “Загубленае жыццё”…

На п’есе варта запыніцца асобна. Аляксей Анішчык, які прысутнічаў на прадстаўленні п’есы ў віцебскім тэатры, успамінаў:

*“Усё заліла чырвань… Пачалася трагедыя здзеку і знішчэння сялянскай гаспадаркі і сям’і. Сэрца раздзірала пагібель ні ў чым не вінаватых людзей. Гледачы ў зале плакалі, многія наўзрыд. У мяне і маіх суседзяў нястрымна цяклі слёзы. Карціна ўрэзалася ў душу на ўсё жыццё…”*

У маі 1947 г. Т.Лебяда быў паўторна арыштаваны (у 1945-м, калі ён знаходзіўся ў Нямеччыне, сябры не здолелі ўтрымаць яго ад вяртання ў краіну-канцлагер):

*Цяжка, цяжка беларусу*
*У чужым краі,*
*Ой, на сэрцы*
*Непрасветная туга!..*
*Толькі тут яму*
*Ніхто не спагадае,*
*Не пачуе яго дзікая*
*Тайга.*

“Цяжка, цяжка беларусу…”[§§§§§§§§]

†††††††† З ліста Ю.Віцьбіча да І.Гуткоўскага ад 18.5.1957, надрукаванага ў «Архіўнай кнізе» Л.Юрэвіча. Нью-Ёрк, 1997.
‡‡‡‡‡‡‡‡ Баявая ўскалось. № 1/4. С. 36—37.
§§§§§§§§ Лебяда Т. Загубленае жыццё. Мн., 1943.

Толькі ў 1960 г. Т.Лебяда вернецца ў Беларусь. На Бацькаўшчыне пісьменнік “ажывае”. У слонімскай “Вольнай працы”[*********] (14 мая) з’яўляюцца яго творы:

*Вось рэчка як быццам*
*спынілася ў зморы,*
*вятрыска пранёсся*
*і знік.*
*А спелыя вішні,*
*Здаецца, гавораць:*
*“Як любіш,*
  *як хочаш –*
    *вазьмі!..”*

“Ёсць рэчка такая…”[†††††††††]

Працуючы рабочым на кардоннай фабрыцы, ён зноў пачынае пісаць п’есы, нарысы, але, як і ў 30-я, Т.Лебяда павінен выконваць “чарговы заказ” партыі. Так, п’есе ў адной дзеі “Людзі ва Хрысце”[‡‡‡‡‡‡‡‡‡] лепш пасавала б назва “Нелюдзі ва Хрысце”, бо святчэннікі ў ёй выглядаюць юдамі… У нарысе “Брыгадзірскі нораў”[§§§§§§§§§] вуснамі “аднаго калгасніка” расказваецца пра брыгадзіра, якога ахарактарызаваць можна так: Сыракваша Аўдзей — лепш яму “налей”. У “агітцы” (прозвішча галоўнага адмоўнага героя тут таксама Сыракваша) “На Гродзеншчыне”[**********] песні хоць і гучаць пра каханне, але адчуваецца іншае: добра жыць нам у калгасе — мы пяём, працуем, “пляшэм”…

Апошнія публікацыі Т.Лебяды з’явіліся ў чэрвеньскай раённай газеце “Уперад”[††††††††††] пад псеўданімам К.Каліна (Клім Каліна). Газета змясціла нарыс “Стваральнікі ляснога багацця” (пра звяно з дзвюх жанчын, якое пасеяла лесу ў тры разы больш за план) і фельетон “Дом… са сланечніку”[‡‡‡‡‡‡‡‡‡‡] (пра “дрэнную” гандлярку сланечнікам, якая “дрэнная” таму, што яна, маці-адзіночка, будуе дом).

[*********] Вольная праца (Слонім). 1960. 14 мая.
[†††††††††] Лебяда Т. Загубленае жыццё. Мн., 1943.
[‡‡‡‡‡‡‡‡‡] Вольная праца. 1960. 9 ліп.
[§§§§§§§§§] Вольная праца. 1960. 26 ліп.
[**********] Вольная праца. 1961. 29 ліп.
[††††††††††] Уперад. 1962. 5 ліп.
[‡‡‡‡‡‡‡‡‡‡] Уперад. 1962. 8 верас.

У канцы 1962 г., па сямейных абставінах, а магчыма, і не жадаючы пісаць толькі пра “надзённае” і “актуальнае”, Т.Лебяда назаўсёды пакідае Беларусь...

Рэабілітавалі пісьменніка 12 ліпеня 1989 г., амаль праз 20 гадоў пасля смерці.

---

[1] **САЧАНКА** Барыс Іванавіч [15.5.1936, в. Вялікі Бор Хойніцкага р-на — 5.7.1995], пісьменнік, службовец. Скончыў БДУ (1960). З 1958 супрацоўнік час. «Вожык», з 1960 — час. «Полымя», з 1976 — сакратар праўлення СП Беларусі, з 1986 у выдавецтве «Мастацкая літаратура». З 1993 галоўны рэдактар «Беларускай энцыклапедыі». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я.Коласа (1982), Літаратурнай прэміі імя І.П.Мележа (1991).

Кр.: *ЭГБ*, т. 6—1.

[2] **ЧЫГРЫН Сяргей Мікалаевіч** [н. 24.9.1956, в. Хадзявічы Слонімскага р-на Гродзенскай вобл.], журналіст, краязнавец, паэт, нам. галоўнага рэдактара “Газеты Слонімскай”, член Саюза беларускіх пісьменнікаў.

[3] **АНІШЧЫК Аляксей Сцяпанавіч** [псеўданімы: Андрэй Чэмер; А.Шпак; 19.7.1912, хутар Мондзіна Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — 3.1.2007, Вільня], мемуарыст, педагог, журналіст, грамадскі дзеяч. Скончыў Навагрудскую гімназію і эканамічны ф-т Пазнанскага ун-та; магістр эканамічных навук. Працаваў у Катавіцах, кіраваў курсамі для інжынераў і тэхнікаў. У верас. 1939 запісаўся ў батальён, які абараняў Варшаву ад немцаў, за што пазней быў узнагароджаны медалём. Пасля капітуляцыі Польшчы вярнуўся ў Навагрудак, дзе выкладаў у школе бел. мову і літаратуру. Потым на Беласточчыне быў дырэктарам школы. У 1941 выкладчык і загадчык школы ў мяст. Уселюб Навагрудскага р-на. З 1942 выкладчык Навагрудскай беларускай настаўніцкай семінарыі. Публікаваўся ў газ. «За праўду», са студз. 1944 яе рэдактар. У лют. — маі 1944 загадчык Навагрудскай друкарні, у маі—чэрв. супрацоўнік сектара радыёперадач Беларускага культурнага цэнтра ў Мінску. Удзельнік 2-га Усебеларускага кангрэса 1944. Пры адступленні нямецкіх войскаў выехаў у

Германію. У 1945—46 жыў у Кракаве, працаваў у газетах. Потым узначаліў ваяводскі аддзел выдавецтва «Czytelnik» у Вроцлаве і Шчэціне. Арыштаваны савецкімі спецслужбамі ў маі 1948; вывезены ў Мінск. За супрацоўніцтва з немцамі прысуджаны да расстрэлу, замененага 25 гадамі зняволення. Правёў у лагерах Запаляр'я і Мардовіі 14 гадоў. Вызвалены з Дубраўнага (?) канцлагера Мардоўскай АССР 12.2.1957. Але за дзень да гэтага ў яго знайшлі ліст антысавецкага зместу. У крас. 1957 у доме А. былі таксама знойдзены два часопісы і каляндар 1944, выдадзеныя ў перыяд нямецкай акупацыі. Гэта стала падставай для новага арышту (20.4.1957). 24.8.1957 асуджаны Вярхоўным судом Комі АССР за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. 4.6.1960 тэрмін зняволення скарочаны. Канчаткова вызвалены ў 1962. Вярнуўся на Радзіму. Працаваў эканамістам у Навагрудскім р-не і ў Лідзе. Потым пераехаў у Літву (Эйшышкі), пазней у Вільню. Узначальваў суполку віленскіх бел. палітвязняў. Пісаў на бел., рускай, польскай мовах. Член СП Беларусі з 2000. Выдаў кнігу мемуараў.



А. Анішчык з жонкай Алёнай Ксавераўнай.

[4] **МАРЦІНОВІЧ Алесь Андрэевіч** [н. 18.8.1946, в. Казловічы Слуцкага р-на Мінскай вобл.], літаратурны крытык, журналіст. Аўтар шматлікіх крытычных артыкулаў пра бел. літаратараў. Падрабязней гл.: *ЭГБ*, т. 5.

[5] **ПЕТРУШКЕВІЧ Ала Мікалаеўна** [н. у 1960 у в. Шчонава, цяпер Карэльскі р-н Гродзенскай вобл.], паэтэса, літаратурны крытык, кандыдат

філалагічных навук, дацэнт кафедры бел. літаратуры Гродзенскага дзяржаўнага ун-та імя Янкі Купалы.

[6] У той час сакратаром «Віцебскага пралетарыя» быў Зміцер Жыткевіч.

**ЖЫТКЕВІЧ Зміцер.**
Н. 26.10(8.11).1904. З 1931 — адказны сакратар віцебскага БелАППа. З 1933 і да смерці (7.8.1955) супрацоўнік НКВД.

[7] **БІРАЛА Захар Якаўлевіч** [псеўданімы: Бульбянік; Захар Бульбянік; Селянін Бульбянік; Зэшка Бірала; Зэшка; 2(15).2.1906, в. Раўнаполле Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 14.9.1993, Мар'іна Горка Пухавіцкага р-на Мінскай вобл.], паэт, сатырык. Пасля сканчэння пачатковай школы актыўна займаўся самаадукацыяй. У 1925—28 працаваў разам з бацькамі на сваёй гаспадарцы. Першыя вершы надрукаваў у 1926 у газ. «Беларуская вёска». У хуткім часе яго творы пачалі з'яўляцца на старонках газ. «Чырвоная змена», «Савецкая Беларусь», час. «Маладыя араты». У 1931 скончыў рабфак БДУ; у 1934 — МВПТ. *«За вучэбнымі сталамі былі асобныя брыгады… Разам з З.Біралам, за адным сталом сядзелі паэт С.Мурзо і празаік Я.Казека»* (З успамінаў Э.Агняцвет, надрукаваных у газ. «Культура». 1998. 27 чэрв.). У час вучобы ў інстытуце па невядомых прычынах фактычна перастаў друкавацца. У 1934—36 выкладаў бел. і рускую мовы ў Лагойскай сярэдняй школе. Арыштаваны 14.11.1936 у Лагойску па адрасе: вул. Камунальная, д. 6.

*«Вёў я ў шостым класе ўрок. Нехта пастукаў у дзверы. Выйшаў я з класа і сустрэў міліцыянера. Ён сказаў:*

*— Вам трэба тэрмінова з'явіцца ў аддзяленне міліцыі. Пажадана з пашпартам. Там усё раскажуць.*

*Спыніў я ўрок. Занёс у настаўніцкую журнал, паведаміў завучу аб адлучцы і разам з міліцыянерам накіраваўся ў аддзел міліцыі.*

*Прывітаўся з начальнікам пашпартнага стала. Той адразу запытаў пашпарт. Сказаў, што трэба зрабіць нейкую адзнаку, і паказаў чужы пашпарт, у якім ужо нешта было напісана. Ад разгубленасці я нічога не разгледзеў. Мяне адпусцілі і сказалі, каб потым прынёс. Калі я выйшаў у калідор, сустрэў работніка НКВД, які прад'явіў ордэр на арышт.*

*У мяне адразу прамільгнула думка: «Пацягаюць нямала. Але выпусцяць. Я ж ні ў чым не вінаваты».*

*Праз некаторы час прывялі ў раённае аддзяленне. Зрабілі вобыск. А што шукаць? У маім партфелі быў толькі сшытак з планамі ўрокаў.*

*Калі я сядзеў у кабінеце, зайшла жонка начальніка НКВД Парэмская, мая вучаніца, дзесяцікласніца. Яна нічога не распытвала ў мяне. Але на твары яе была дабрадушнасць і спачуванне.*

*Праз некалькі хвілін у пакой зайшоў канваір і сказаў, што трэба зрабіць вобыск на маёй кватэры. Мы паехалі на машыне. На месцы ўзялі двух суседзяў у якасці панятых і пачалі вобыск. У кватэры перавярнулі ўсё, шукалі наган або іншую зброю. Мне было гэта дзіўна. Адкуль я мог узяць тую зброю? Уважліва пераглядзелі ўсе студэнцкія канспекты, падручнікі, маю ўласную кніжку «Смех і радасць вёскі». Усе канфіскаваныя рэчы звязалі ў вялікі вузел і аднеслі ў машыну, уціснулі і мяне туды і павезлі ў мінскую турму-амерыканку, якая знаходзілася на цяперашняй вуліцы Урыцкага...»* (Тут і далей вытрымкі ўзяты з успамінаў З.Біралы.)

Дастаўлены ў Мінскую турму НКВД. Асуджаны 15.11.1937 асобай нарадай пры НКВД як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да 8 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. «*Пачуўшы прыгавор я заплакаў... Суддзя адгукнуўся на слёзы славамі: «Масква слязам не верыць».* (З успамінаў З.Біралы). Пакаранне адбываў у Горкаўскай (цяпер Ніжагародскай) вобл. на станцыі Сухабязводная, дзе працаваў на лесанарыхтоўках. З успамінаў З.Біралы (арт. П.Пруднікава «Паэт-гаротнік». Першацвет. 1995. № 5):

*«Усе тры гады зняволення «загараў» на лесапавалу. Яшчэ і цяпер сняцца піла і сякера, а таксама дзікія нормы, якія немагчыма было выканаць...*

*Усё адведаў удосталь... Не толькі сталінцы, а й самі зэкі за лішні чарпак баланды гатовы былі здзерці шкуру. Сябрук у мяне быў... разам вучыліся* (у Мінскім Белпедінстытуце. — ***Л. М***.), *разам жылі ў адным інтэрнаце, разам трапілі ў кіпцюры НКВД, разам сядзелі ў падвале і ў «амерыканцы»...*

*Нас прывезлі ў лясны лагер, дзе мы нейкі час напару цягалі пілу, аб якой ён да лагера не меў аніякага паняцця. Словам, я выручаў яго — браў усё на сябе. А калі мне прыйшла пасылка — ратаваў яго і ад голаду. Потым гэты спрытнюга забыўся пра наша сяброўства і пра тое, што я для яго рабіў, — «частаваў» мяне дрынам за маё «гультайства» і нямогласць...»*



Бірала З. Я.

Вызвалены 24.9.1940. У 1940—41 настаўнічаў у в. Сеніца Мінскага р-на, выкладаў бел. мову і літаратуру. У час вайны жыў з бацькамі ў пас. Астравы на Міншчыне. У 1944—45 у дзеючай арміі, быў цяжка паранены. У 1945—73 выкладчык бел. і рускай мовы і літаратуры Мар'інагорскага сельгастэхнікума. Арганізаваў у тэхнікуме літаратурны гурток. Быў кіраўніком літаб'яднання пры раённай газ. «Сцяг працы». Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15.8.1958. Толькі пасля рэабілітацыі ў Б. з'явілася магчымасць зноў публікаваць свае кнігі. Аўтар зборнікаў гумару і сатыры. Член СП СССР з 1980. Пахаваны ў Пухавічах. Асабовая справа Б. № 12272-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

*Обзорная справка*

*По архивно-следственному делу № 22261 по обвинению:*

*Бирало Захара Яковлевича, 1906 года рождения, уроженца дер. Равнополье, Смиловичского района, БССР, из крестьян, белоруса, служащего, имеющего высшее образование, беспартийного, до ареста работавшего учителем Логойской средней школы.*

*Бирало З. Я. арестован органами НКВД БССР 14 ноября 1936 года как активный участник контрреволюционной нацдемовской организации, существовавшей в БССР.*

*На допросе 15 ноября 1936 года Бирало показал, что он действительно является участником контрреволюционной организации, ставившей своей целью проведение организованной борьбы с Советской властью. Участниками данной организации являлись:*

*Мурзо Сергей — учитель,*
*Ермолович Яков — студент ВПИ,*
*Хатулев Петр — литературный работник,*
*Пивоваров Зяма — газетный работник,*
*Левин Соломон — писатель-критик,*
*Моряков Валерий — писатель,*
*Лявонный Юрий — писатель,*
*Живуцкий Иван — учитель в Заславле (л. д. 20—22)".*

**ЖЫВУЦКІ Іван Сцяпанавіч** [1912, в. Зарэмбы Барысаўскага (?) пав. Мінскай губ., цяпер Бярэзінскі р-н Мінскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД]. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў настаўнікам у СШ ў мяст. Заслаўе (цяпер Мінскага р-на). Арыштаваны 14.10.1937. Асуджаны 28.10.1937 тройкай НКВД як "удзельнік контррэвалюцыйнай шпіёнскай арганізацыі" да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 19.10.1959. Асабовая справа Ж. № 14857-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Да справы З. Біралы далучаны выпіскі з паказанняў абвінавачваных па іншых справах:

*“Ермоловича Я.С., Юркевич-Лявонного Л.Н., Живуцкого И.С., Левина С.В., Пивоварова З.Р., которые на допросах показали, что Бирало является участником националистической организации, существовавшей в БССР (л. д. 41—51).*

*15 ноября 1937 года специальной судебной коллегией Верховного Суда БССР Бирало З.Я. был осужден по ст. 72п. «а» к восьми годам лишения свободы в ИТЛ, с последующим поражением в правах на 5 лет (л. д. 64).*

*В судебном заседании Бирало от данных им показаний на предварительном следствии отказался и виновным себя не признал и показал, что на предварительном следствии его показания следователь записал не правильно, в контрреволюционной организации он не состоял и никакой антисоветской деятельностью он не занимался. Обнаруженную у него запрещенную литературу он хранил исключительно потому, что не знал, что эта литература запрещена.*

*(л. д. 62—63).*

*Свидетели в судебном заседании не допрашивались.*

*3 января 1940 года определением Судебной Коллегии Верховного Суда СССР по протесту прокурора СССР, приговор специаотной Судебной Коллегии БССР по делу Бирало был отменен и дело возвращено на новое рассмотрение со стадии предварительного следствия.*

*(л. д. 86—87).*

*В процессе дополнительного расследования прямых доказательств о принадлежности Бирало к антисоветской организации добыто не было, за исключением того, что отдельные свидетели показали, что Бирало, работая учителем в Логойской средней школе, проявлял националистические взгляды.*

*(л .д. 111,118,119).*

*14 июля 1940 года дело по обвинению Бирало было направлено на расмотрение Особого Совещания при НКВД СССР.*

*В постановлении Особого Совещания пра НКВД СССР от 10 сентября 1940 года за №105 указано:*

*«Бирало Захару Яковлевичу за участие в антисоветской националистической организации зачесть в наказание срок предварительного заключения, из под стражи освободить».*

*(л. д. 138—139).*

*Архивно-следственное дело по обвинению Бирало З.Я. находится в учетно-архивном отделе КГБ БССР.*

*Пом. Военного прокурора БВО майор юстиции (Коробов).*

*3 июля 1956 г., г. Минск”.*

[8] **ДЗЯРКАЧ Анатоль** [сапр.: Зіміёнка Анатоль Рыгоравіч; іншыя псеўданімы і крыптанім: А.З.; Дзядок Тарас; Дзяргач; А.Зіміёнак; А.Зімёнка; «Не-жанаты»; 6(18).4.1887, мяст. Турэц Навагрудскага пав. Мінскай губ.,

цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 5.9.1937, Мінск, турма НКВД], паэт, сатырык, гумарыст, мемуарыст. У 1904 скончыў народнае вучылішча ў Навагрудку. Пачаў публікавацца; спачатку пісаў на рускай мове. Служыў у земскай і гарадской управах у Мінску. Член партыі эсэраў. У 1908 арыштаваны, адпраўлены ў ссылку. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 служыў у мінскіх адміністрацыйных органах Часовага ўрада. Пасля 1917 працаваў у газ. «Беларуская вёска». З 1924 рэдактар сатырычнага час. «Дубінка» (дадатак да газ. «Звязда»); працаваў у газ. «Піянер Беларусі», час. «Полымя». У сатырычным жанры, узяў сабе псеўданім Анатоль Дзяркач. Член СП Беларусі з 1934. Пісаў творы для дзяцей. Перакладаў з рускай і ўкраінскай моў. Арыштаваны 16.10.1936. Асуджаны да ВМП і расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957.

[9] **ДУБРОЎСКІ Іларыён Карпавіч** [23.5.1907, в. Багушэвічы Бярэзінскага р-на Мінскай вобл. — пасля 1937, ГУЛАГ (?)], журналіст. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту загадчык аддзела газ. «Чырвоная змена». Арыштаваны 26.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Р.Люксембург, д. 34, кв. 2. Асуджаны тройкай НКВД 1.10.1937 за «антысавецкую агітацыю» і як член «контррэвалюцыйнай групоўкі» да 10 гадоў ППК. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда СССР 18.12.1954. Асабовая справа Д. № 9936-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[10] **ЕРМАЛОВІЧ Якуб** [Якаў Сідаравіч; 7.8.1910, в. Вяшэўка Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Бярэзінскі р-н Мінскай вобл. — 18.4.1987, Бярэзінскі р-н], празаік. Друкавацца пачаў у раённых газетах у 1929, у цэнтральных бел. выданнях у 1931. У 1931 скончыў Мсціслаўскія двухгадовыя педагагічныя курсы. Настаўнічаў у Магілёўскай вобл. У 1932—33 літсупрацоўнік газ. «Калектывіст» у Чэрвені Мінскай вобл. У 1933 паступіў на літаратурны ф-т МВПІ. Арыштаваны 2.10.1936 у Мінску ў пакоі № 24 інстытуцкага інтэрната. Асуджаны тройкай НКВД 3.10.1937 за «антысавецкую дзейнасць» да 6 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ў Сібірскі канцлагер НКВД Новасібірскай вобл. У 1939 прысуд адменены, вызвалены быў толькі ў чэрв. 1941 (са зняццем судзімасці). У перыяд нямецкай акупацыі жыў у в. Вяшэўка. З верас. 1944 настаўнік бел. мовы і літаратуры ў Беразіно, потым у СШ в. Пагост Бярэзінскага р-на. У 1959 завочна скончыў Магілёўскі педінстытут. Член СП Беларусі з 1961. Пахаваны ў в. Вяшэўка. Па першай справе (№ 31950-с; захоўваецца з фотаздымкам у архіве КДБ Беларусі) рэабілітаваны 26.7.1967 пленумам Вярхоўнага суда СССР.

[11] **ПАЛЬЧЭЎСКІ Алесь** [Аляксандр Восіпавіч; 3(16).1.1905, в. Прусінава Мінскага пав., цяпер Уздзенскі р-н Мінскай вобл. — 26.4.1979, Мінск], празаік, драматург, рэдактар. Вучыўся ў Вышэйшым пачатковым

вучылішчы ў мяст. Новы Свержань. Першыя вершы і апавяданні апублікаваў у 1924. У 1925 паступіў на рабфак БДУ.

*«Я назіраў за гэтым стройным, прыгожым юнаком. Ён быў вышэй сярэдняга росту, бландзіністы, з блакітнымі вачыма і дабрадушнай усмешкай на твары. Паходка лёгкая, рухавая, але не паспешлівая. Гаварыў стрымана, без лішніх слоў і непатрэбнай штучнай інтанацыі. У той час ён яшчэ быў студэнтам БДУ...»* (Пруднікаў П. Далёкае, але не забытае. Мн., 1988).



Пальчэўскі А.

У 1931 скончыў педагагічны ф-т БДУ. Працаваў у час. «Кааперацыя БССР», потым у час. «Шляхі калектывізацыі». У 1931—36 адказны сакратар дзіцячага час. «Іскры Ільіча». Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 27.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Прыгожая, д. 19, кв. 1. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 1.10.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай групоўцы і антысавецкую агітацыю» да 8 гадоў ППК. Тэрмін адбываў, хутчэй за ўсё, ва Унжэнскім канцлагеры НКВД Горкаўскай вобл. Зноў арыштаваны 13.12.1948. Высланы ў Краснаярскі край. Пасля вызвалення (1954) вярнуўся ў Мінск. У 1955—57 працаваў рэдактарам мастацкай літаратуры ў Дзяржвыдавецтве БССР; з 1957 літсупрацоўнік, у 1961—71 адказны сакратар час. «Вясёлка».

*«Пазванілі з дома кіраўніцтва, даволі строга: што каторы месяц у мяне не аплачана кватэра. Як так! — настаўбучыўся я. — Тут нешта наблытана, у мяне ўсе квіткі...*

*— Дык вось мы ж і просім зайсці да нас з квіткамі, таварыш Скрыган.*

*— Зараз жа зайду!*

*Тут толькі Алесь* (Пальчэўскі. — ***Л. М.***) *разрагатаўся...»* (Скрыган Я. Некалькі хвілін чужога жыцця. Мн., 1990).

Пахаваны ў в. Прусінава. Імя П. нададзена вуліцы ва Уздзе.

*«Хавалі Алеся Пальчэўскага цёплым красавіцкім днём на прусінаўскім пагосце, побач з бацькам, маці і братам. Ён апошні раз пабываў у роднай хаце, адкуль выправіўся ў нялёгкую дарогу, каб з годнасцю прайсці яе»* (Грахоўскі С. Так і было. Мн., 1986).

Рэабілітаваны судовай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 18.12.1954. Асабовая справа П. № 9936-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

12 **ПІВАВАРАЎ Зяма** [Зяма Раманавіч; Залман Рувімавіч; крыптанімы: П-Ў; П-ў; 24.5(5.6).1910, мяст. Касцюковічы Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Касцюковічы Магілёўскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], паэт, перакладчык. Пачаў пісаць вершы па-беларуску ў 1925, тады ж упершыню апублікаваў іх у клімавіцкай газ. «Малады камуніст». У 1927 паступіў у Мсціслаўскі педтэхнікум. У 1929 пераехаў у Ленінград. Публікаваўся ў ленінградскіх альманахах і часопісах. Уступіў у БелАПП. Вучыўся на літаратурным ф-це МВПІ (скончыў у 1934). У 1934—36 працаваў у рэдакцыі газ. «Чырвоная змена». Перакладаў рускіх паэтаў. Выступаў у друку таксама як тэатральны крытык. Арыштаваны 13.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Чычэрына, д. 30, кв. 1. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член нацыянал-фашысцкай арганізацыі», за «антысавецкую прапаганду» і «ўдзел (з 1934) у тэрарыстычнай групоўцы» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 8.3.1958. Асабовая справа П. № 11556-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.



Піваварaў З.

13 **РОЗНА Алесь** [Абрам Ісакавіч; 1913, Мінск — 1942, Горкаўская вобл., Унжлаг], паэт, перакладчык. З сям'і службоўца. Пасля сканчэння

сярэдняй школы працаваў наборшчыкам у друкарні. Першыя вершы былі апублікаваны ў 1926 у газ. «Чырвоная змена». Друкаваўся ў час. «Полымя», «Чырвоная Беларусь», газ. «Савецкая Беларусь», «Звязда» і інш. Перакладаў на бел. мову творы Г.Гейнэ, А.Міцкевіча, А.Пушкіна. У першай палове 1930-х г. працаваў у рэдакцыі газ. «Чырвоная змена». Адначасова вучыўся ў МВПІ, які скончыў у 1935.

*«У 1932 годзе мы з Алесем Рознам пачалі вучыцца ў Мінскім педінстытуце. У 19 гадоў яго скроні ўжо серабрылі сівізной. Ён ведаў больш за ўсіх нас... кожнаму стараўся памагчы, растлумачыць, параіць. Дабрата, ласкавы гумар, чуласць прыцягвалі кожнага, хто хоць раз сустракаўся з ім»* (Грахоўскі С. Так і было. Мн., 1986).

Арыштаваны 28.10.1936 у Мінску па адрасе: вул. Чырвонаармейская, д. 27, кв. 2. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 2.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую дзейнасць» да 10 гадоў ППК. Этапаваны на ст. Сухабязводная ў Горкаўскай вобл. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 19.10.1955. Асабовая справа Р. № 9934-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

14 **ТАКАРЧУК Юры** [Георгій Кліменцьевіч; 26.11.1910, Ашмяны Віленскай губ., цяпер Гродзенскай вобл. — 31.7.1942, Табольск ?], журналіст. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Працаваў карэспандэнтам газ. «Комсомольская правда» ў Беларусі. Падчас арышту адказны сакратар радыёгазеты «Апошнія паведамленні». Ажаніўся, гадаваў дзіця. Арыштаваны 26.11.1936 у Мінску па адрасе: Омскі зав., д. 6/1. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 15.11.1937 як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК. 2.5.1942 тэрмін пакарання зніжаны да 8 гадоў. Загінуў 31.7.1942 у Табольскай турме НКВД Цюменскай вобл. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда СССР 26.1.1955. Асабовая справа Т. № 4877-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

15 **ТУМІЛОВІЧ Янка** [Іван Людвігавіч; 6(19).9.1905, в. Сяліба Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Бярэзінскі р-н Мінскай вобл. — 21.1.1938, ГУЛАГ], паэт. Паходзіў з сялянскай сям'і. У 1927 скончыў БДУ. Жыў у Мінску. Працаваў выкладчыкам гісторыі, у рэдакцыях часопісаў. Выступаць з вершамі ў друку пачаў у 1925. Член літаб'яднання «Маладняк». У 1926 разам з Я.Бобрыкам і А.Звонакам выдаў паэтычны зборнік. Публікаваўся ў час. «Маладняк», газ. «Савецкая Беларусь», «Чырвоны сцяг», «Звязда», «Чырвоная змена», «Камунар Магілёўшчыны»; калектыўным зборніку «Дэкламатар» (1928). У пераважнай большасці вершы Т. — гэта ўзоры пралеткультаўскага рамантызму 1920-х г. У 1927 стаў адным з заснавальнікаў «Пралетарска-сялянскай беларускай літаратурнай суполкі» («Пробліск»). З 1930

публікацыі Т. знікаюць са старонак перыядычнага друку. Магчыма, гэта звязана з хваляй рэпрэсій у 1930. У 1930-я г. працаваў выкладчыкам Вышэйшай школы паліт. асветы, у рэдакцыі газ. «Піянер Беларусі».

Арыштаваны 11.10.1936.

*«Завялі мяне ўночы, амаль пад раніцу… Раніцай я і пазнаёміўся з усімі насельнікамі палаты. Сусед па ложку назваўся Янкай Туміловічам… Я, вядома, не пазнаў бы яго, каб ён не назваўся. Час, абставіны, цяжкая хвароба… змянілі яго. Твар бледны, з жаўцізной…*

*Потым з'явіўся ў палаце і Янка Нёманскі…»* (з арт. В.Хомчанкі «Васількі на манішцы» ў кнізе «Дзень паэзіі. 86». Мн., 1986).

З кнігі Масея Сяднёва «Масеева кніга» (Мн., 1994): *«У 1936 годзе* (1937. — ***Л. М***.) *доля звязала нас* (М.Сяднёва, В.Хомчанку, Я.Нёманскага, Я.Туміловіча, Блохмана. — ***Л. М***.) *у падвальнай камеры на рагу Савецкай і Урыцкага. Тая камера цяпер замураваная, і калі цяпер мы глядзелі на тое замураванае месца, нам здавалася, што і мы замураваныя там на векі».*

20.6.1937 асуджаны да 7 гадоў пазбаўлення волі. 21.1.1938 расстраляны. Рэабілітаваны ў 1940.



Туміловіч Я.

16 **ЯКШЭВІЧ (ЯКШЭВІЧУС) Аляксандр Іванавіч** [2.1.1886, Шаўлі, цяпер Шаўляй, Літва — пасля 1967, Вільнюс], публіцыст. Адзін са стваральнікаў Камуністычнай партыі Літвы. Працаваў у чыгуначных майстэрнях Гомеля, настаўнічаў у Мінску. Наркам шляхоў зносін у Літбеле. У 1931—32 рэдактар газ. «Raudonasis artojas» у Мінску. Пераклаў на літоўскую мову «ТВТ» Я.Маўра. Падчас арышту працаваў настаўнікам у СШ № 1 Мінска. Арыштаваны 26.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Грамадская, д. 30/6, кв. 2. Асуджаны 5.10.1937 пазасудовым органам НКВД як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую

дзейнасць» да 10 гадоў ППК. Пакаранне некаторы час адбываў з С.Шушкевічам. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 29.12.1954. Пасля вайны жыў у Вільнюсе. Асабовая справа Я. № 9935-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.



Якшэвіч А.

[17] **МЯЛЕЖКА Сцяпан,** хутчэй за ўсё, не быў рэпрэсаваны.

[18] Цалкам артыкул з пададзенымі рэдакцыяй вершамі прыводзіцца ніжэй.

***"ПАМЯЦІ СЯБРА ПАЎЛЮКА СІРАТЫ***

*Сем год таму памёр у Менску дзеля нястачы лекаў ад сухотаў беларускі паэта Валентын Таўлай, ведамы ў Заходняй Беларусі, як "Дванаццаты" і Паўлюк Сірата.*

*П.Сірата паходзіў з вёскі Кракотка на Слонімшчыне з сялянскай рэвалюцыйна-грамадаўскай сям'і. Нарадзіўся ў 1914 г. Ад 14 год веку ён пачынае пісаць вершы і прыймае актыўны ўдзел у вызвальным змаганні беларускага народу. Ужо першыя ягоныя вершы зварачуюць на сябе ўвагу баёвасьцю і вобразнасьцю. "Дванаццаты" — так падпісваў тады свае вершы малады паэта — стаецца ведамым праз свае творы, друкаваныя ў вучнёўскіх часапісах Віленскае Беларускай Гімназіі, шырокаму беларускаму чытаючаму грамадзянству. Ведала свайго паэту і беларуская вёска, дэклямавала ягоныя творы на вечарынах ТБШ, перапісвала іх у свае любімыя сшыткі моладзь побач з творамі іншых нашых пісьменнікаў-змагароў.*

*Пасля ліквідацыі БСР Грамады, маладога паэту, разам з іншымі вучнямі-змагарамі, выкідае з гімназіі Астроўскі за "радыкальныя погляды", а*

*фактычна за выступы супраць палянафільскай палітыкі дырэктара гімназіі. Сірата варочаецца на вёску, але ня кідае змагання, за што колькі разоў арыштоўваецца польскім акупантам і разам праседзіў у турме больш сямі год. Смага змагання за волю народу даводзіць яго да Камсамолу, які тады маскаваўся рэвалюцыйнай антыфашыстаўскай шыльдай. Хутка, дзякуючы правакацыі трапляе разам з іншымі хлапчукамі ў рукі польскай паліцыі і суду. Засуджаны, разам з іншым падсудным Ю.Тарасюком, таксама нялетнім хлапцом, уцякае ў БССР.*

*Умовы, ў якіх апынуўся паэт, замаразілі першыя буйныя ўзьлёты ягонае паэзіі. Аб ім мала чуваць, рэдчас друкуецца ў Маладняку, Полымі, амаль ня піша. Ім цікавіцца НКВД, якое ўжо пасадзіла ягоных сяброў па працэсу ў турмы. Выбухае нямецка-бальшавіцкая вайна. Паэта застаецца ў хаце і прыймаецца беларускім грамадзянствам, якое памагае яму ачысціцца ад правакацыйных польскіх даносаў немцам на паэту. Падчас сяткавання 25-годздзя Віленскай Беларускай гімназіі паэта чытае свае творы, які потым былі змешчаны ў памятковым зборніку.*

*У 1944 г. паэта сустракаецца ў Менску з сваімі старымі сябрамі-пісьменнікамі, якія з'ехаліся, каб падзяліцца думкамі. З усходу сунецца новая бальшавіцкая навала. Сірата дэцыдуецца застацца на Радзіме, каб гэтым ратаваць сваю сям'ю і не адрывацца ад народу. Ён ведае, што лёс ягоны ня будзе лёгкі, хоць ён нат навязаў кантакты з бальшавіцкай партызанкай. Там жа, у Менску, адбылося і апошняе раставанне з сябрамі з "Маладой Ускалосі", да якой ён належаў ад яе паўстання да выезду ў БССР.*

*У 1928 г. надрукаваны першы верш паэты. У 1930 г. выходзіць нелегальным друкам ягоная паэма НЯПЕРАМОЖНАЯ, прысьвечаная Грамадзе; у 1938 г. выходзіць у БССР першы зборнік вершаў, а ў 1947 г. наступны ВЫБРАНЫЯ ВЕРШЫ, ужо пасмяротны. Літаратурная Сустань Баявая Ускалось рыхтуе зборнік вершаў паэты, які спадзяецца выдаць у пачатку наступнага году.*

*Не пажыў паэта доўга на сваёй гэтак горача каханай Радзіме. Няўмольная сьмерць скасавала маладое жыцьцё і шматабяцаючы талент, да чаго ў вялікай меры спрычыніліся і польская і бальшавіцкая акупацыйныя ўлады.*

*Дык хай-жа будзе яму лёгкай родная зямелька!*

*Сьпі, наш дарагі Сябра, памяць аб Табе будзе жыць, пакуль жыве Беларускі Народ і ягонае змаганне за волю!*

*Паўлюк Сірата*

*ПЕРАМОГА*

*Векі заплюшчыш, напружаны сон*
*грудзі раскроіць, як плугі барозны.*
*Нешта набухне, як боль, і як скон,*

*нешта заплача наўзрыд і бясслёзна.*

*Заўтра з заплаканых шыбінак мар*
*сінім прасветам прасочыцца ранак,*
*зваліць з грудзей набалелы цяжар,*
*сцюжнай рукою сціскаючы раны.*

*Ўстань і ў сцюдзенным жалезе пабач*
*новыя вартасці слова жывога!*
*І зразумееш душой — Барацьба!*
*І зразумееш душой — Перамога!*

*Горадзенская турма, 13.XI.1927 г.*

*ТАВАРЫШУ МАЁЙ ВЁСКІ*

*Можа нашым шляхом ня зыйсціся, мая дарагая,*
*іх блакітна-імглістую даль загубілі адзін і другі.*

*Хай паэт у палоне і ў песьнях сваіх дагарае*
*і вясенянае сэрца бароніць ад жудаснай слізкай тугі.*

*Мне з вясной разьвітацца і сэрца ня хопіць і нельга, —*
*я радзіўся з вясны, каб вясьнець да нябыту хвілін.*

*Помню, помню: мы некалі пышную ружу сустрэлі*
*і ня ведалі: ружа цвіла, ці сустрэча і вочы цвілі.*

*З тэй сустрэчы цвітучай сарваў я на памятку радасць*
*і да сэрца, як бант, успамінам на век прышпіліў,*

*і нясу праз жыццё непакорны ні бурам, ні здрадам,*
*каб і сэрцу цяплей, каб сінелі прыветней палі.*

*Будзе песня губіцца ў распененых студзенем далях,*
*да цябе даляціць, — ты хоць раз сірату прытулі.*

*Цёплай сейбіцкай жменяй мы шчыра жыцё раскідалі,*
*каб вясна расцвіла для людзей на пакутнай зямлі.”*